DISTRICTUS
# ПАВЕТ
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ
№ 5 (50) ТРАВЕНЬ 2006 г.

# "ПАВЕТ" : ЮБІЛЕЙНЫ НУМАР

## 2001 - 2006

**"Павет" існуе 5 гадоў. За гэты час пабачыла свет 50 нумароў.**

Нам, выдаўцам, вельмі прыемна трымаць у руках юбілейны нумар "Павета". Поўны камплект выдання салідны па вазе і галоўнае па зместу, разам – гэта 400 старонак разнастайнай інфармацыі па гісторыі і культуры Браслаўшчыны і сумежных земляў, што з'яўляліся часткай гістарычнага Браслаўскага павета.

Першы бюлютэнь з'явіўся ў ліпені 2001 года. Мы ў той час і не марылі, што праект акажацца настолькі жыццяздольным і запатрабаваным. Цяпер мы з удзячнасцю згадваем Хрыстафора Жэляпава, кіраўніка Віцебскай філіі фонда імя Льва Сапегі, аднаго з ініцыятараў выдання, шматгадовага яго апекуна, Міхася Гіля з Паставаў, Васіля Храмцова з Наваполацка, кіраўнікоў грамадскіх арганізацый, якія забяспечвалі памнажэнне накладу, з удзячнасцю мы згадваем усіх шматлікіх аўтараў, якія дзяліліся з выданнем сваімі набыткамі. З удзячнасцю мы згадваем распаўсюджвальнікаў, усіх чытачоў, зацікаўленасць якіх жывіла энергію для далейшай працы. Надзвычай важна, што не толькі нам адным хочацца, каб юбілейны нумар не стаў апошнім.

Усё гэта дае нам надзею спадзявацца на сустрэчы на старонках новых выпускаў "Павета"

УНІКАЛЬНЫ ЮБІЛЕЙ МЯСТЭЧКА ІКАЗНЬ
1504 500 2004

150
СТАНІСЛАЎ НАРБУТ
4 мая 1853 - 11 сакавіка 1920

# 50 З нагоды ...

 У апошнія гады я з вялікай цікавасцю чытаю газету "Павет", у якой змяшчаецца многа матэрыялаў па гісторыі і культуры Браслаўшчыны. У 1960-66 гадах працаваў настаўнікам у Карасінскай сярэдняй і Рудаўскай васьмігадовай школах. Тады пазнаёміўся з многімі мясцінамі Браслаўскага раёна (Відзы, Опса, Дрысвяты, Казяны, Далёкія, Замошша, Бяльмонты, Слабодка, Друя, Іказнь і іншыя). Многа чаго ўбачыў, аб многім даведаўся. Але веды мае тады былі вельмі павярхоўныя. Газета "Павет" дапамагае больш даведацца аб тых мясцінах, дзе раней бываў, пазнаёміцца з выдатнымі людзьмі, якія нарадзіліся на Браслаўшчыне, працавалі тут. Хочацца пажадаць, каб газета "Павет" заўсёды была змястоўнай, цікавай, з густам аформленай і запатрабаванай.

***Кліменцій Кожан*** *(в.Германавічы), супрацоўнік музея, вядомы краязнавец*

 Па справах даводзіцца бываць на краязнаўчых канферэнцыях і злётах за межамі раёна. Ведаю, што найлепшы сувенір для калег з іншых куткоў Беларусі - нумар нашага "Павета". Многія, гартаючы яго старонкі, з зайздрасцю ўздыхалі: "Нам бы такі ..." Часта просяць даслаць свежы экзэмпляр.

Так што, ёсць нагода сказаць рэдакцыі нашага юбіляра – вы ў краіне адны з лепшых (калі не лепшыя) !

***Віктар Бунто*** *(в.Пагошча), настаўнік Канстанцінскай БШ, вядомы арганізатар школьнага краязнаўства*

 Выданне, не абцяжаранае цвёрдай вокладкай і вялікім накладам, мае свае перавагі. На аснове цікавых краязнаўчых артыкулаў у "Павеце" знаходзіш кур'ёзныя гісторыі з жыцця, віншаванні, нечаканыя фотаматэрыялы. Ён жыве разам са сваім краем. З юбілеем!

***Надзея і Уладзімір Кандрусевічы*** *(Менск). Надзея - студэнтка, будучы спецыяліст па замежнай лінгвістыцы, чытач і распаўсюджвальнік "Павета" ад першага нумара. Уладзімір - мастак, аўтар шэрагу карцін і дрыварытаў, звязаных з гісторыяй Браслаўшчыны.*

 Самае прыемнае – атрымліваць водгукі ад чытачоў "Павета". У асноўным водгукі прыязныя, ад зацікаўленых чытачоў, хаця былі і непрыемныя тэлефанаванні (звычайна ананімныя). "Павет" - выданне, якое рыхтуецца на грамадскіх пачатках, і таму водгукі чытачоў з'яўляюцца напэўна самым моцным стымулам працягваць справу. Рыхтаваць і друкаваць выданне усё больш складаней, але маем надзею, што юбілейны нумар не апошні.

***Кастусь Шыдлоўскі***, *навуковы супрацоўнік Браслаўскага музейнага аб'яднання, краязнавец, укладальнік, рэдактар, аўтар "Павета".*

 Кожны нумар "Павета", быў для мяне вельмі цікавым. Гістарычныя звесткі пра вядомыя мне з дзяцінства мястэчкі ды вёскі роднай Браслаўшчыны, знакамітых людзей гэтага краю дапоўнілі мае веды па краязнаўству.

З гэтага бюдютэня даведаўся пра апошнія гады жыцця і творчасці Ота Гедэмана – аўтар кнігі "Historja powiatu Brasławskiego", якая ў мае школьныя гады была першай краязнаўчай кнігай. На старонках яе ўпершыню прачытаў гістарычныя звесткі пра нашы мястэчкі Мёры, Новы Пагост, Перабродздзе, маёнтак Чэрас-Селішча.

На старонках "Павета" былі змешчаны артыкулы пра маіх настаўнікаў Індраўскай беларускай гімназіі (Латвія) Аўгена Аніську, кс.Язэпа Гайлевіча, мясцовых паэтаў і дзеячоў нацыянальнага руху, якія жылі на Браслаўшчыне і тых, каго лёс закінуў па розных краінах свету ў часы ваеннага ліхалецця.

З цікавасцю чытаюць "Павет" і ў Глыбокім, дзе жывуць ураджэнцы Браслаўшчыны. Яго нумары чытаюць у раённай бібліятэцы і архіве мясцовыя краязнаўцы.

***Язэп Бунто*** *(Глыбокае), адзін з самых вядомых і старэйшых краязнаўцаў Глыбоччыны*

 Акрамя асноўнай дзейнасці настаўніка школы, займаюся наборам тэкстаў. Адным з цікавейшых набораў лічу выданне "Павет". Думаю, што выданне не толькі своечасовае, але і вельмі важнае для рэгіёна. З выдання можна шмат чаго пазнаць, даведацца. Лічу, што справа гэта важная і патрэбная не толькі для настаўнікаў, краязнаўцаў, але і для большасці жыхароў і гасцей Браслаўшчыны. Так што, хай юбілей не будзе апошнім!

***Валерый Буко*** *(Браслаў), настаўнік Барунскай БШ. У выдавецкай групе набірае тэксты, абслугоўвае E-mail, займаецца фотаздымкамі.*

 Жадаю каб разам адсвяткавалі 100-ы нумар "Павету". Таму зычу вытрываласці і моцы духу. Абяцаю і надалей быць з Вамі разам.

***Вітаўт Ермалёнак*** *(Мёры), вядомы краязнавец, калекцыянер, арганізатар аднаго з лепшых у Беларусі школьных музеяў, нараджэнец Браслаўшчыны. Пастаянны аўтар выдання і яго распаўсюджвальнік.*

 У сувязі з выхадам юбілейнага 50-га нумара віншую рэдкалегію і жадаю новых поспехаў і адкрыццяў па гісторыі Браслаўшчыны. "Павет" з задавальненнем чытаюць у Латвіі. Пры магчымасці раздаю нумары знаёмым. Многія здзіўляюцца, што невялікі Браслаў мае такое цікавае выданне. Сучасны старшыня Беларускага таварыства ў Даўгаўпілсе Барыс Іваноў, убачыўшы ўпершыню "Павет" завёз падборку нумароў сваім землякам. Так выданне трапіла да суседзяў праз Латвію. Вельмі запатрабаваным аказаўся нумар, прысвечаны Іказні. Нават друкавалі на ксераксе дадатковыя асобнікі.

***Мікола Паўловіч*** *(Даўгаўпілс, Латвія), адзін з актыўных дзеячоў беларускай арганізацыі ў Даўгаўпілсе, калекцыянер, даследчык. У Браслаўскі музей перадаў звыш 1 тыс.экспанатаў. Аўтар "Павета".*





Памятаю вялікія аркушы памерам А3, складзеныя ў вялікія стосы на падлозе нашай кватэры. Ад "сьвежага", як кажуць у журналісцкім асяродзьдзі, нумару "Павета" ішоў тады яшчэ нязвыклы для мяне пах друкарскае фарбы. Старонкі былі раскладзеныя асобнымі купкамі, нумарок да нумарка, назва да назвы, - іх трэба было яшчэ скласьці ў суцэльную газэту. Бярэш аркуш з адной купкі, з другой, складаеш напалам – і перад табой чарговы нумар выдання краязнаўцаў Браслаўшчыны – "Павет". Пасьля некалькіх гадзін працы ты ідзеш церці свае пафарбаваныя ў чорны друкарскі колер пальцы гаспадарчым мылам, знаёмішся са зьместам новага нумару і са спакойным сумленьнем залазіш у ложак, каб трохі набрацца сіл на цяжкі працоўны дзень.

Памятаю зборы на заняткі, у гімназію. У дзень выхаду новага нумару "Павета" палову падручнікаў вымушана была пакідаць у хаце, бо месца ў заплечніку ў гэтыя дні займала прэса. Накінуўшы куртку пад пільнай увагай гардэробшчыцы, я накіроўвалася да сваіх сяброў, якія ўжо нецярпліва чакалі мяне пад дзьвярыма аўдыторыі і кідалі цікаўныя позіркі на пузаты ад газэтаў заплечнік: якая ж тэма будзе пададзена ў "Павеце" сёньня? Усю колькасьць газэт мы дзялілі напалам, а пасьля, загаддзя абмеркаваўшы маршруты, разьбягаліся па паверхах. Некалькі нумароў адразу заставаліся ў гімназічнай бібліятэцы, астатнія разыходзіліся па кафедрах, знікалі ў вучэбных аўдыторыях. Са зьместам знаёміліся па-рознаму: хтосьці гартаў старонкі падчас перапынку, хтосьці засвойваў новую інфармацыю разам зь ежай у сталоўцы, а хтосьці, хаваючыся ад пільнага вока настаўніка, праглядаў газэтку пад партай на ўласных альбо суседскіх каленях. Памятаю, як ганарылася прапановай разьмясьціць свой першы матэрыял на старонках "Павета".

Памятаю, з якой цікавасьцю праглядаў нумары "Павета" мой экзаменатар на ўступным іспыце. Памятаю, бо назірала, колькі працы, натхненьня і шчырасьці ўкладаецца ў кожны нумар газэты яе выдаўцамі ...

***Яна Шыдлоўская** (Менск), студэнтка, будучая журналістка. У нейкай ступені на выбар жыццёвай сцяжынкі паўплываў і "Павет"*

*Старадаўняй Літоўскай Пагоні не разьбіць, не спыніць, не стрымаць!!!*

***Максім Багдановіч***



**Пячатка Вітаўта. 1390 г**



Ужо 5 год даволі значная чытацкая аўдыторыя мае магчымасць даведацца пра мінулае Браслаўшчыны на старонках выдання "Павет". Добра, што матэрыялы ахопліваюць розныя накірункі краязнаўства. Важна і тое, што і школьнік і навуковец можа знайсці для сябе карысную інфармацыю. На мой погляд "Павет" за гэты адрэзак часу захаваў свой стыль, падыход да асвятлення падзей і рэдкалегію. Прыемна, што і на старонках рэспубліканскай "Краязнаўчай газеты", Віцебскага "Нашага слова", а таксама "Браслаўскай звязды" трапляюцца перадрукоўкі з бюлютэня. Трэба пажадаць як рэдкалегіі так і чытачам трывалага "доўгажыхарства".

***Аляксандр Панцялейка** (Браслаў), намеснік дырэктара Браслаўскага музейнага аб'яднання, краязнавец, дызайнер, вярстальшчык выдання*

**Вітаўт Ермалёнак**

# ГІСТОРЫЯ МЁРСКАГА КАСЦЁЛА




**Набываючы такую паперку-«цаглінку» за 1 капейку, вернік далучаўся да фінансавання ўзвядзення касцёла**

У 2007 годзе адбудзецца святкаванне 100-годдзя пабудовы касцёла у Мёрах. Але мёрскі касцёл мае больш даўнюю гісторыю . Па ўскосных данных можна меркаваць, што ўжо ў XVI ст., хутчэй за ўсё ў апошняй чвэрці, ён дзейнічаў. Складанасці звязаны з тым, што ў даўнія часы было па меншай меры пяць паселішчаў з такой назвай у якіх існавалі і царква і касцёл і капліца. Так, у тэстамэнце Януша Пуцяты, маршалка Браслаўскага павета, у 1612 г. запісана патрабаванне "пахаваць яго на маёнтку Міры на полі, каля яго дзяцей і на гэтым месцы пабудаваць капліцу".

Касцёл ў Мёрах не аднойчы згадваецца ў дакументах 1691, 1717, 1744, 1775, 1789 гадоў. Але найбольш цікавы дакумент выяўлены ў Гродзенскім гістарычным архіве Г.Семянчуком. Інвентарнае апісанне мёрскага касцёла і яго маёмасці ад 14 кастрычніка 1823 г. складзена ў сувязі са смерцю мёрскага ксяндза Яна Клімачэўскага і ўступленнем на гэту плябанію Ежы Чапулевіча. У дакуменце сказана, што касцёл размешчаны ад павятовага горада Дзісна на 7 міль , ад другога парафіяльнага касцёла на тры мілі. Касцёл стары пабудаваны больш чым за двесці гадоў назад , прадаўгаваты з высокай франтальнай вежай.

Памерамі невялікі, драўляны клямарамі ўзмоцнены, дошкамі абабіты. Падмурак з камянёў і цэглы на валне. Дах па дошках быў пакрыты гонтам. Толькі вялікая вежа і малая пад прэсбітэрыям былі крытыя бляхай. На іх вялікі і малы жалезныя крыжы . Касцёл меў двайныя дзверы, першыя былі абабітыя дошкамі, другія напалову шкляныя, але таксама падвойныя. Акрамя таго ў сакрысціі было 6 адзінарных дзвярэй. Вокнаў у будынку таксама было 6, чатыры з іх мелі жалезныя краты. Столь - драўляная, падлога фарбаваны паркет.

Касцёл меў тры маляваныя і пазалочаныя алтары. У вялікім знаходзіўся абраз Св.Тройцы, а над ім Найсвяцейшай Дзевы Марыі Ружанцовай, побач яшчэ чатыры абразы. У другім алтары - Найсвяцейшай Дзевы Марыі і святога Антонія. У трэцім была статуя пана Езуса, пад ім абраз святога Яна Непамуцена. Пасярэдзіне касцёла змяшчалася сэрца Езуса ў выглядзе алтара. Амбон - сталярнай работы пафарбаваны і пазалочаны. Пад будынкам знаходзіліся два мураваныя скляпы, а ў памяшканні злева - восем лавак. Агароджа вакол касцёла і могілак была з усіх бакоў каменнай, але пераважна разбураная. Ля будынка знаходзілася званіца з драўляных брусоў на падмурку, пакрытая гонтам, з невялічкім бляшаным шпілем і старым жалезным крыжам. У Мёрскай парафіі ў гэты час было некалькі капліц: дзве ў Камянполлі, адна ў Кацілава, дзве ў Мёрах (напэўна ў гэтым выпадку пад Мёрамі трэба разумець сённяшнія Дубашынскі двор і Клётаў двор ). У дакуменце 1823 г. таксама пералічаны населеныя пункты якія належалі да парафіі. Прывесці іх тут неабходна хаця б таму, што многіх з іх ужо няма на карце сучаснага Мёрскага раёна. Вось гэты пералік: Пад'ельцы - 11, маёнтак Мёры - 1, Міснікі - 8, Рызаўшчына -5, Парчэлі -3, маёнтак Кацілава - 1, Карпачова - 3, Крукаўка - 1, Войткава - 8, Жмідзіна - 1, Махіроўка - 3,маёнтак Любінова -1, Лявонаўцы - 4, Чапукі - 4, маёнтак і вёска Гарані - 4, Барсучына - 1, Пазнякі - 2, маёнтак Мёры-Томкі - 5,Зажукі - 2, Востраў - 1, Жукі - 2, маёнтак Камянполь - 1, Святая Вада - 2, Янова - 5, Падліпкі - 2, Ніўкі - 2, Апанасёнкі - 3, Сякерка - 1, Гентава - 4, Гракава - 2, Даўгінаўка - 2, Асінаўка - 3, Арэхаўка - 3, Ігнацкі - 7, Слабодка - 8, маёнтак Станілава-Дворышча - 5,Шардзюкі - 5, Тэключын - 1, Букава - 8 , маёнтак Мёры-Акулаўшчына - 1, Жукі - 2, Марцінаўцы -1, Русачкі - 2, Мацюкі-8, маёнтак Міёры -1, Пячонкі - 8, маёнтак Шчоўна разам з Рускай Вёскай - 6, Барсучына - 2, Чэрава - 2, Мікелі - 3, Зарубежжа - 2, Лахоўцы - 1, Рыхіткі - 1, Яджэвічы - 1, Рубава - 3, Маразы - 3, Баркі - 3, маёнтак Загон - 1, Загоны - 12, Латышонкі - 5, Зубрава - 5, Пацава - 3, Салаў'і - 2, Лапешчына - 2, Новы Двор -1, Стрэтава - 4,Чурылава - 4, Дзехцярова - 3, маёнтак Багудзенкі з вёскай Орцы - 12, Найдаыва - 2, Александрова - 7, Гір'яты - 11, маёнтак Габрылеўшчына з вёскай Чарняўцы - 4, засценак Разаліна -1, Папкі - 12, засценак Акунёва - 2, Лапаўшчызна - 2, Ліпліца - 2, Заскаў - 2, Сачнёва -5, маёнтак Застаныш разам з вёскай - 8, Вільнова - 3, Баравыя - 2, маёнтак Блашкі і вёска 11, маёнтак Чэрасы з трыма фальваркамі Франопаль, Селішча і Мазалеўшчына. Вёскі якія належаць ім: Масеўцы - 6, Плейкі - 7,Сушкі - 3, Літоўчыкі - 1, Загаране -3, Босіны - 3, Вароньki 3, Мальцы - 2, Рабечына - 1, Гараўцы - 1, Пагары -1, Палякі - 2, Грукі - 3, Крукі - 1, Чэрасы - 4, Дзядэк - 1, Канахі -2, Картавыя - 3, Свярдлы - 2, Крыштулі - 2, Дворна - 6, Цілеўы - 3, Дубровыя-3, Пестуны-Пальчахі - 1, Карпачовы - 1, Лаўкі - 3, Селязні - 1, Сілава - 2, Транцянава - абораў 6, дамоў 2, Мёры - дамоў 4, усяго дамоў 418, здольных да малітвы душ 2415, дзяцей - 450. Колькасць двароў і насельніцтва, напэўна, было значна большым, але ў асноўным гэта былі ўніяты. А нагаданы ў інвентары ксёндз Антоній Чапулевіч выконваў пастарскія абавязкі ў мёрскім касцёле на працягу амаль 20 гадоў, карыстаўся вялікай павагай прыхаджан. Ён выступаў супраць актыўнага праціўніка ўніі мітрапаліта Сямашкі, за што і быў пакараны царскімі ўладамі. Ксяндза, не гледзячы на пратэсты вернікаў, арыштавалі і выслалі ў глыбіню Расіі. Мураўёў-вешальнік нават загадаў перарабіць касцёл пад праваслаўную царкву, але загад не выканалі. Праўда касцёл некалькі разоў спрабавалі закрыць, бо будынак сапраўды быў у аварыйным стане ўжо ў канцы XIX ст. Непагадзь у 1905 годзе давяршыла справу. Паўстала пытанне аб будаўніцтве новага касцёла. Царскі ўрад, напалоханы рэвалюцыяй 1905 года , зрабіў палёгку неправаслаўным веравызнанням. Таму пасля вялізнай папяровай валакіты віленскі губернатар дазволіў узвядзенне ў Мёрах цаглянага касцёла, з умовай каб не збіраліся на гэта ахвяраванні, таму што, край тры гады запар спасцігаў вялікі неўраджай.

Ксёндз Юзэф Бародзіч для збору сродкаў сфарміраваў групы актывістаў, якія раз'ехаліся па Расійскай імперыі. Сам Ю.Бародзіч накіраваўся ў Варшаву ў гарадскія цэхі. Палымянае слова пастара даходзіла да чулых сэрцаў рабочых і для святой справы людзі не шкадавалі грошай. Але Юзаф Бародзіч праагітаваў толькі адзін дзень, бо царскім жандарам здалося, што гэта бальшавіцкі агітатар. Ноч яму давялося прабыць пад арыштам. Назаўтра ў губернатара ўсё высветлілася, губернатар папрасіў прабачэння і падараваў свой рубель. Потым варшаўскія артысты далі вялікі канцэрт, сродкі ад якога былі перададзены на касцёл. Не з пустымі рукамі прыехалі касцельныя актывісты з Вільні і іншых гарадоў. А мясцовыя жыхары дапамаглі будматэрыяламі, фурманкамі, рабочай сілай. Непадалёку ад Мёр за возерам быў пабудаваны завод па вырабу цэглы, а па возеры для хутчэйшай дастаўкі зрабілі паромную пераправу. Якой якасці былі будматэрыялы можна меркаваць па сёняшнім стане сцен. Ад іх адскоквалі нават асколкі і снарады пад час другой сусветнай вайны. На будаўніцтве касцёла штодзень працавала па 200 і больш муляроў. У канцы лета 1907 г. была адпраўлена першая імша ў новым будынку. Пасля першай імшы ў новым касцёле ксёндз Бародзіч быў арыштаваны і сасланы ў глухамань на Ашмяншчыну, дзе таксама хутка правініўся і быў сасланы ўжо ў Расію спачатку ў Яраслаўль, а потым у Рыбінск. Але там нейкім чынам яму удалось атрымаць права на місіянерскую дзейнасць, і зноў ён пабудаваў вялікі і вельмі прыгожы касцёл на ахвяраванні людзей. Казанні вёў на рускай мове .

Юзаф Бародзіч нарадзіўся ў 1861 годзе, у 1893-м здаў іспыты ў духоўную семінарыю ў Вільні, якую скончыў у 1897 г. Працаваў вікарыем у Лідзе, Новых Троках, Даўгелішках, год адбыў у Гродзенскім кляштары. У 1900 г. наведаў Рым, дзе папа Леон XIII благаславіў яго на місіянерскую дзейнасць. Потым зноў Вільня, першы пабудаваны касцёл ў мястэчку Жозлі. У Клушчанах узвёў касцёл і плябанію ў гатычна-закапанскім стылі. Затым у 1905 г. быў накіраваны ў Міёры. А царскі ўрад "у падзяку" саслаў ксяндза ў Аглонскі кляштар у Латвію. Адбыліся суды ў Гродна і Пскове. Прысуд - на многія гады змясціць у Дынанбургскую крэпасць .Як піша ва ўспамінах Ю. Бародзіч " пан бог ўратаваў мяне па дарозе ў крэпасць ". Удалося ўцячы з цягніка. За рубель расійскі пагранічнік прапусціў на польскую тэрыторыю . У Кракаве ў Ягелонскім універсытэце нейкі час выкладаў філасофію. Потым райскі куток Еўропы Сан-Рэма.Тут у якасці святара ён працаваў у касцёле святога Роха і па просьбе сястры -амерыканкі, за яе грошы, пабудаваў вілу "Палонія" і невялічкі гатычны касцёл . На віле заказаў намаляваць белага арла - сімвал польскай дзяржаўнасці. Гэтага не дараваў яму царскі ўрад.

Спачатку Фларэнцыя, потым Іспанія, шлях караблём на расправу ў Адэсу. Але ішла першая сусветная вайна, карабель падарваўся на міне. Англічане выратавалі тонучых і адвезлі ўсіх у Канстанцінопаль. Тут Ю.Бародзіч атрымаў звестку аб атрыманні незалежнасці Польшчай. Ён паспяшаўся ў Варшаву, дзе пачаў збіраць грошы галадаючым. Лёс Ю.Бародзіча быў неспакойны. То яго падазравалі ў шпіянажы на карысць бальшавіцкай Расіі , то ў Сан-Рэма распачалі судовую справу наконт вілы "Палонія" і касцёла, нібы пабудаванага на прысвоеныя ахвяраванні. Не ў ладах ксёндз з Польскай уладай і прэсай, як левай так, і



**Скульптура Маці Божай з маленькім Езусам, якая ўстаноўлена перад касцёлам.** ***Сучасная паштоўка***

правай . Зноў паклёпы, суды. Выратавалі яго прыхажанні з Мёр якія сабралі ў абарону ксяндза пяць тысяч подпісаў не толькі католікаў, але і праваслаўных, яўрэяў.

Пасля высылкі Барoдзіча справу будаўніутва касцёла прадоўжыў ксёндз Кшыштофік. Канчаткова будаўніцтва было закончана ў 1909 г. Першае казанне на беларускай мове адбылося ў 1917 г., яго прамаўляў вядомы святар-адраджэнец Адам Станкевіч. У гісторыі касцёла была і такая цікавая старонка - у 1919 г. ксёндз Грынеўскі ўзначаліў антыбальшавіцкае паўстанне на Мёршчыне.

Пазней у касцёле служылі: ксёндз-дэкан Свіркоўскі, дэкан Сакалоўскі, дэкан Грыневіч. С 1936-га па 1939-ты святаром быў Куксевіч. У 1939 г. сталага святара не было, прыязджалі Гурскі і Квяткоўскі. З 1940 г. па 1949 год святаром быў Ян Завістоўскі. Пад час вайны яму дапамагаў доктар тэалогіі Скукоўскі. У часы вызвалення, улетку 1944-га, ў касцёл трапіла пяць снарадаў. Быў прабіты дах, але касцёл вытрымаў. З 1949 года святаром быў Ян Стогандаль. Каб пазбегнуць арышту ён у 1951 г. пакінуў Мёры. Да 1956 года касцёл не меў сталага святара, савецкія ўлады яго зачынілі і зрабілі з яго зернесховішча. У 1957 г. у касцёле пачынае сваю дзейнасць пасля зняволення Казімір Грабоўскі. На працягу амаль 20 гадоў, пад час самага разгула атэістычнай прапаганды, да смерці ў 1985 годзе, сумленна праводзіў душпастарскую дзейнасцьЗ 1985 года і па 2001 год святаром і пазней дзеканам быў Уладас Пятрайціс. Пры ім шырока загучала ў святыні беларуская мова, выходзіла газэта "Голас душы", на ахвяраванні на цвінтары быў пастаўлены адзіны ў Еўропе помнік ненароджанаму дзіцяці (скульптары Юрый Аношка, Алесь Дранец, архітэктар Уладзімір Папруга). У 1998 годзе, таксама на ахвяраванні вернікаў, быў пастаўлены помнік Маці Божай з дзіцяткам Езусам (скульптар Ігар Голубеў). З 2001 года ксяндзом-дэканам служыць Кшыштаф Мянкіна. Пры ім працягваецца аднаўленне касцёла. У 2002 г. на будынку зменены дах, пачата аднаўленне каменнай агароджы і добраўпарадкаванне цвінтара. Касцёл набыў больш велічны, манументальны выгляд. Наперадзе плануюцца значныя працы па рэстаўрацыі інтэр"ера касцёла. За апошнія 10 год пакліканне ў святары атрымалі больш 10 хлопцаў, паміж імі і сябры гуртка "Арганаўты мінулага": Барок Юра, Грыгор'еў Уладзімір, Шэнда Алег, Барок Вячаслаў, Шамрыцкі Алесь, Карніцкі Юра і інш. "Бог, Бацькі, Бацькаўшчына" - гэта адзін з дэвізаў нашага гуртка стаў сэнсам усяго іх жыцця.

# ПАД ВОКАМ БОЖАГА ПРОВІДУ

**Кастусь Шыдлоўскі**

## (раздзел з неапублікаванай кнігі)

*«Каб гэты горад Браслаў як у справах судовых, так і ўрадавых гарадскіх, а таксама адміністрацыйных пэўнай дасягнуў славы яму герб надаем "Апекаванне Божае"..., які на пачатках і ўсялякіх адзнаках гэтага гораду ўжываць дазваляем».*

***Станіслаў Аўгуст. Кароль***

У гістарычнай спадчыне любога горада значнае месца належыць гербам. Герб - яго своеасаблівая візітная картка, знак адметнасці, сведчанне значэння, вартасці горада ў даўнія часы. Браслаў атрымаў герб паводле прывілея вялікага князя літоўскага і караля польскага Станіслава Аўгуста, падпісанага 2 чэрвеня 1792 г. Ён мае наступны малюнак: "*на блакітным полі залатое сонца, у цэнтры якога блакітны трохкутнік з чалавечым вокам*". Асноўны элемент герба вядомы пад рознымі назвамі - "Вока Прадбачання", "Усевідушчае Вока", "Вока Божай Апекі", "Нядрэмнае Вока", "Вока Провіду Божага". Гэта вядомы хрысціянскі сімвал, які часта ўжываецца пры аздабленні храмаў, рэчаў культавага ўжытку. Вока сімвалізуе ўсевідушчасць Бога, яго пранікненасць ва ўсе справы людскія. Трохкутнік, што абрамляе вока - сімвал трыадзінства Бога, які паводле хрысціянскіх канонаў адзіны, але існуе ў трох іпастасях: Айца, Сына і Святога Духа. Сонца ж - сімвал жыцця, ачышчальнага агню. Між іншым усе гэтыя элементы ўжываліся яшчэ ў шэрагу дахрысціянскіх вераванняў. Кампазіцыя вока, трохкутніка і сонечных промняў шырока ўжывалася масонамі.



**Станіслаў Аўгуст (1732-1798), апошні манарх Рэчы Паспалітай. Шчодрай рукой раздаваў прывілеі, нават самым маленькім гарадкам**



**Гэта каляровы малюнак Браслаўскага герба быў змешчаны ў тэксце прывілея, занесенага ў кнігі запісаў Літоўскай Метрыкі**

На гербе Браслава Божае вока сімвалізуе апеку боскіх сілаў над горадам, яго жыхарамі, абарону іх ад усіх бедаў і няшчасцяў. Як не ставала такой апекі разбуранаму, знявечанаму ваеннымі ліхалеццямі XVII-XVIII стст. Браславу.

Часам можна пачуць тлумачэнне, што браслаўскі герб адлюстроўвае абарончае значэнне горада, размешчанага на рубяжах

Полацкай зямлі, Вялікага княства Літоўскага. Браслаў - як вартавы, пільнае вока якога ўглядаецца ў далячынь, у любы момант чакаючы нападу. Блакітны фон герба звязваюць з азёрамі. Часам на малюнках герба замест сонечных промняў уводзілі скрыжаваныя пікі. Такое тлумачэнне добра дастасоўваецца да мінулага Браслава, але з'яўляецца штучным. Яго карані ў 60-х гадах мінулага стагоддзя, калі рэлігійную сімволіку стараліся абысці. Дарэчы, Браслаў не адзіны горад, які мае Божае вока на гарадскім гербе. Гэты сімвал прысутнічае на гербах такіх гарадоў былога Вялікага княства Літоўскага як Шаўляй, Кальварыя Трокскага ваяводства, Плунгяны Жамойцкага ваяводства.

Гарадскі герб - гэта не проста візітоўка горада, ён заўсёды быў звязаны з наданнем насельніцтву магдэбургскага права ці права на самакіраванне. Такія гарады называліся вольнымі. Іх жыхары атрымлівалі судовую незалежнасць, падатковыя прывілеі, прывілеі ў рамеснай вытворчасці, гандлі. Улада ў магдэбургскім вольным горадзе належала выбарным органам самакіравання.




**Такую пячатку вырабілі для «вольнага горада» Браслава пасля падпісання прывілея. Аднак пакарыстацца ёй магістрат відаць не паспеў**

У шэрагу публікацый прысвечаных Браславу сустракаецца сцвярджэнне, што горад атрымаў магдэбургскае права, праўда няпоўнае, яшчэ ў восені 1500 года падчас візіту сюды вялікага князя Аляксандра Ягелончыка. Доўгі час гэтыя звесткі не ставіліся пад сумненне, хаця гісторыкам не ўдалося выявіць ані тэкста прывілея Аляксандра, ані дадзеных аб выбарных органах самакіравання горадам, ужыванні герба, пячаткі. У некаторых рэестрах падаткаў XVI ст. Браслаў аднесены да непрывеліяваных гарадоў. У грунтоўным інвентары 1554 г., у якім згаданы ўсе будынкі і жыхары Браслава няма звестак аб выбарным магістраце, ратушы. Але вось што цікава - прывілей Станіслава Аўгуста ад 2 чэрвеня 1792 г. названы аднаўляючым. Аднаўляць можна толькі тое, што існавала. Прадстаўнікі Браслава ў канцы XVIII ст. здолелі пераканаць Станіслава Аўгуста, што горад быў вольным, пры гэтым спасылаліся на шэраг дакументаў. Тэксты некаторых дакументаў вядомы, але непасрэдна яны не кажуць аб наданні Браславу магдэбургскага права, а хутчэй аб тым, што жыхары горада карысталіся пэўнымі абмежаванымі льготамі. Вось у інвентары 1554 г. вядома, што жыхары Браслава плацілі дзяржаве грашовы падатак чынш "*а иного не повинны яко на работу ходит, так теж овса, сена и иных повинностей не повинны платити.*" Дакумент падкрэслівае, што чынш гараджане "*мают розное от волостных людей*", іншымі словамі адрозніваюцца ад залежных сялян. Калі ўзнікалі спробы пазбавіць жыхароў Браслава гэтых прывілеяў, яны адстойвалі свае правы ў судзе (як, напрыклад, у 1670 г.), а пра герб ды самакіраванне, відаць, не задумваліся.




**Паштоўка «Гербы літоўскіх гарадоў». Кракаў. Пач. XX ст. Уверсе справа - пячатка з гербам Браслава**




**Тытульны ліст справы жыхароў Браслава аб прывілеі на магдэбургскае права. 1862-66 гг.** ***Зберагаецца ў Каўнаскім архіве***

У 1776 г. вальны Сойм скасаваў магдэбургскае права для ўсіх маленькіх гарадкоў і мястэчак Вялікага княства Літоўскага. Іх жыхары аддаваліся пад юрыдыкцыю старостаў, якія скарысталіся гэтым, каб узмацніць эксплуатацыю мяшчан. Жыхары мястэчак не толькі гублялі пэўныя льготы, але і траплялі ў большую залежнасць ад пэўнага чыноўніка. Гэта прымусіла мяшчан пачаць рашучую барацьбу за аднаўленне страчаных прывілеяў, гарантам якіх выступала магдэбургскае права. Прынамсі за пашырэнне правоў мяшчан рашуча выступаў браслаўскі дэпутат на Вялікі сойм Томаш Ваўжэцкі. Гэты ж самы Вялікі сойм (1788-1792) вярнуў магдэбургскае права мяшчанам, якія ім




**Такую версію рэканструкцыі Браслаўскага герба прапанаваў у кнізе «Гісторыя Браслаўскага павета» О.Гедэман. Малюнак выканаў студэнт Віленскага ўніверсітэта Зыгмунт Кавальскі. Звяртае ўвагу няправільнае размяшчэнне трохкутніка**



**Эталон браслаўскага герба, зарэгістраваны ў дзяржаўнай геральдычнай службе Беларусі. Выканаўца - Валерый Зінкевіч, супрацоўнік Браслаўскага музейнага аб"яднання**

карысталіся. Заварушыліся і жыхары заняпалага Браслава, у якім ледзьве налічвалася тысяча чалавек. Прычым гараджане на гэты раз вырашылі стварыць паўнавартастныя органы самакіравання. Былі праведзены выбары ў магістрат. Войтам абралі Александровіча, раднымі Рынкевіча, Сяліцкага, пісарам яшчэ аднаго Сяліцкага. Жыхары абвясцілі, што Браслаў з'яўляецца местам каралеўскім вольным, што ён вяртаецца да даўніх сваіх прывілеяў, якія гарантаваныя сучаснай канстытуцыяй дзяржавы ўхваленай Вялікім соймам. Браслаўцы знайшлі падтрымку з боку калег Віленскага магістрата. У Браслаў у пачатку траўня быў накіраваны радны гэтага магістрата Казімір Пашкевіч. 19 траўня ён прадставіў рапарт аб выніках сваёй паездкі. Агульным галасаваннем у Браславе быў абраны кватэрмейстар для размяшчэння жаўнераў. Госць з Вільні распавёў як лепей змагацца з пажарамі і як сярод жыхароў размеркаваць супрацьпажарны інвентар. Ён скасаваў манаполію двара адносна возніцтва, шынкарства, утрымання кафенгаўза і некаторых іншых навіннасцяў і дазволіў жыхарам мястэчка гандаль любым таварам. К.Пашкевіч піша ў справаздачы, што ён вызначыў за межамі мястэчка месца пад могілкі, якое было асвечана 14 траўня і адзначана крыжам. Жыхары мястэчка сабралі сродкі на агароджу. Ініцыятыва мяшчан не спадабалася тагачаснаму браслаўскаму старосце І.Гільзену і дзяржаўцы браслаўскай эканоміі А.Загорскаму, бо пераход Браслава да магдэбургскага права абмяжоўваў іх уплыў. І.Гільзен не прызнаў правамоцнасці выбараў. Рашуча павёў сябе А.Загорскі. Ён арганізаваў у Браславе хваляванні. Мяшчане, якія сталі шукаць управы на начальства ў вышэйшых інстанцыях, так апісвалі дзеянні дзяржаўцы: "*...сабраў тлум людзей і маскалёў, узброеных нажамі і сякерамі, якія былі гатовы да бойкі... уласнай рукой абвесткі магістрату пазрываў, а потым на Рынку піраміду з выявай Літоўскай Пагоні, падрыхтаваную да ілюмінацыі з нагоды святкавання згаданай Канстытуцыі, на дробныя кавалкі пасёк, па рынку параскідаў, на мачонку Пагоні рубцы ад удараў пакінуў. Пасля гэтага натоўп і маскалі прайшліся па вуліцах і спявалі маскальскія песні ў гонар сваёй перамогі.*" Справа праз шэраг інстанцый дайшла да Станіслава Аўгуста, якому "*ад імя шляхетных бурмістра, войта, радных і іншыхураднікаў гарадскіх і ўсяго люду горада*" былі прадстаўлены матэрыялы па аднаўленню магдэбургскага права. Апошні манарх Рэчы Паспалітай задаволіў просьбу жыхароў Браслава. Што праўда, у той крызісны для краіны перыяд, прывілей для гарадоў і маленькіх мястэчак раздаваліся надзвычай шчодра.

Прывілей адзначаў, што Браслаў здаўна з'яўляецца сталічным местам свайго павета, што даўнішнія прывілеі грунтоўна даказаны дакументамі, што ўрэшце Браслаў мае "*прыстойнае становішча горада*" (пабачыў бы хто са складальнікаў тэкста прывілея некалькі дзесяткаў драўляных хат, якія складалі горад). Жыхарам Браслава прывілей гарантаваў права выбару магістрата, вызваленне ад розных юрысдыкцый (залежнасцей), свабоды дазволеныя гарадскім правам. "*Усіх абывацелей у гэтым горадзе, якія цяпер тут жывуць і якія потым тут пажадаюць пасяліцца... лічыць Людзьмі Вольнымі,*" - абвяшчала грамата. Адказнасць мяшчане неслі перад гарадскім судом. Дазвалялася збудаваць Ратушу для паседжанняў магістрата і судоў, у зручных месцах гандлёвыя лаўкі, гарадскую цагельню для патрэб горада. Станіслаў Аўгуст станавіўся гарантам правоў вольнага горада Браслава і ў прывілеі папярэджваў усіх, хто сваімі дзеяннямі гэтыя правы парушыць.

Тэкст браслаўскага прывілея быў упісаны ў кнігу запісаў канцылярыі Вялікага княства Літоўскага, актавую кнігу Браслаўскага земскага суда. Арыгінал на пергаменце з віслымі пячаткамі некалькі дзесяцігоддзяў зберагаўся ў жыхароў Браслава. Магчыма менавіта гэты экзэмпляр знаходзіцца цяпер у аддзеле рукапісаў навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы ў Вільнюсе.

Прывілей на магдэбургскае права не паўплываў на развіццё Браслава, для горада наступіў найгоршы перыяд існавання. Адно з нямногага, што паспелі зрабіць мяшчане - зрабіць пячатку. Захаваўся яе адбітак. Па авалу подпіс на польскай мове: "Пячатка магістрата места Р(эчы) П(аспалітай) вольнага Браслава. Года 1792". У сярэдзіне зверху змешчаны герб Браслава без шчыта, а ніжэй - выява Святога Хрыстафора з дзіцем на плячы, герб Вільні.

Хаця Браслаў і быў цалкам разбураны падчас задушэння паўстання 1794 г., а колькасць жыхароў яшчэ больш скарацілася, мяшчане настойвалі на сваіх прывілеях. У інвентары 1798 г. падкрэслівалася, што мяшчане патрабавалі запісваць Браслаў асобна ад староства, як магдэбургскі горад, каб ім быў забяспечаны вольны доступ да возера Дрывяты, каб сабраныя з Браслава падаткі не аддаваліся начальству староства, каб прыбытак з корчмаў(ніцейны збор) належыў мяшчанам.

Недзе на пачатку 40-х гадоў XIX ст. усе прывілеі Браслава былі скасаваны, а мяшчане абвяшчаліся дзяржаўнымі сялянамі. З гэтым жыхары мястэчка пагадзіцца не пажадалі і сталі скардзіцца ў розныя інстанцыі, апялюючы да каралеўскай граматы 1792 г. У Каўнаскім архіве захоўваецца справа "*Дело по прошению жителей местечка Браслав о дарованной королем Станиславом Августом привилегии тому местечку*". Цікава, што на тытульным лісце справы спачатку было напісана "крестьян местечка Браслав", а потым гэтыя словы замянілі на больш нейтральнае "жителей". Напрыканцы 30-х гадоў ХХст. мястэчка ўключылі ў толькі што ўтвораны казённы маёнтак Браслаў, у склад якога ўвайшоў былы гаспадарчы комплекс браслаўскага староства. Менавіта адміністрацыя маёнтка і акруговыя чыноўнікі палаты дзяржмаёмасці змянілі статус браслаўскіх мяшчан на сялянскі. Група мяшчан з 27 чалавек, сярод якіх былі: Міхал Сяліцкі, Адам Лапыр, Міхал Калкоўскі, Пётр Хлябовіч, Антон Шульгоўскі, Восіп Петрашкевіч, Мікалай Кіркілевіч, Восіп Барташэвіч і інш., сталі ў розных інстанцыях дабівацца сваіх правоў. У скаргах яны падкрэслівалі, што іх продкі жылі ў Браславе на падставе даўніх прывілеяў польскіх каралёў, што яны карысталіся правамі мяшчан, мелі ўласныя зямельныя надзелы, складалі асобную ад сялян грамаду, аплочвалі адзіны падатак у павя-

товую казну, паводле прывілея 1792г. мелі органы самакіравання, ужывалі пячатку, ужо ў складзе імперыі мелі ўласную квоту на рэкрутаў. У распараджэнні мяшчан знаходзіўся арыгінал каралеўскай граматы, які прадстаўляўся ў якасці доказаў. Звярталіся жыхары Браслава і да тагачаснага імператара. Манарху была адпраўлена грамата 1792г. з просьбай зацвердзіць яе.

З каўнаскай справы не бачна, чым скончыліся захады мяшчан... Верагодней за ўсё ў сувязі з сялянскімі рэформамі і рэформамі кіравання, якія праводзіліся ў той час царскімі ўладамі, праблемы жыхароў Браслава страцілі сваю актуальнасць. Паказальна тое, што свае правы перад бюракратычнай машынай яны адстойвалі каля 30 гадоў.

Надалей мы знаходзім толькі асобныя прыклады аднаўлення гарадскога самакіравання. Перад першай сусветнай вайной у Браславе дзейнічала мяшчанская ўправа. Пры польскай уладзе нядоўгі час праіснаваў нават магістрат. У 1919г. бурмістрам быў абраны Ф. Жарык (дарэчы, уладальнік Замкавай гары), існавалі пасады сакратара, радных. У савецкі перыяд улада ў горадзе належыла гарадскому савету і яго выканаўчаму органу. Паводле зменаў 90-х гадоў цяпер Браслаў мае аддзел гарадской гаспадаркі пры райвыканкаме.

Вяртанне Браславу самакіравання - справа будучыні. Тым часам гарадскому гербу ўжо вернуты афіцыйны статус. Герб Браслава адначасова з'яўляецца афіцыйным сімвалам усяго раёна. Рашэнне аб гэтым прынята сесіяй раёнага савета 10 кастрычніка 2002г.. Сесія зацвердзіла палажэнне аб гербе, а таксама сцягу Браслава і раёна. Сцяг уяўляе сабой белае палотнішча, пасярэдзіне якога блакітная паласа шырынёй у траціну палотнішча. У цэнтры асноўнага боку палотнішча змешчана каляровае адлюстраванне герба Браслава. Эталоны браслаўскіх сімвалаў зарэгістраваны ў дзяржаўнай геральдычнай службе Беларусі і ўнесены ў гербавы Матрыкул Рэспублікі Беларусь.

Няхай жа натхняе Вока Божага Провіду ўсіх, хто верыць у лепшую будучыню Браслава.




**Некалькі месяцаў 2004 г. герб Браслава аздабляў раённую газету**





**Герб Браслава шырока ўжываецца нашымі землякамі, якія жывуць ў Польшчы і маюць некалькі сваіх выданняў**




**Герб Браслава на мастацкім канверце, прысвечаным 500 годдзю з часу надання Браславу магдэбургскага права. 2000 г. *Мастак М.Купава***

*Гартаючы старыя газеты*

**Новоалександровский уезд.** (от нашего корреспондента)

*Из д.Гавриловцы сообщают, что промчавшимся ураганом повреждены жилые и нежилые строения у 15 домохозяев; сорваны крыши, разрушены стены. И больше нигде не было разрушений. Обострился ли ураган под деревней Гавриловцы и дальше притих? Или это был смерч? В Новоалександровском уезде много озер, благодаря чему колебания температуры более резкое чем в других местах. Не имело ли это влияния на образование смерча или усиление урагана? Положение пострадавших крестьян ужасное. Если бы строения их погорели, они хоть что-нибудь получили, а теперь ни гроша. Отстроится наскоро трудно. Сбережений нет. Следовательно приходится одолжать деньги у ростовщиков. Куда ни брось взгляд - положение крестьянина пахаря таково, что он балансирует точно на канате. Малейшей причины достаточно, чтобы вывести домохозяев из ряда экономически состоятельных единиц. Начинаются ахи и вздохи, выпрашивание пособий, недоедание. Жизнь идет вперед значительно прихрамывая. Жизнь так ставит вопрос, что для некоторых все сложно: и град, и засуха, и ураган, и черви, а для некоторых лёжа на боку - все готово, галушки сами в рот лезут. Только успевай глотать.*

*Северо-Западный телеграф. (Ковно). 5 ліпеня 1912 г.*

«ПАВЕТ» DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)